


# ЭМІГРАНТ

№ 1, красавік 2002 г. *Месячнік беларускай палітычнай эміграцыі ў Польшчы*



## Зьвяз Беларускіх Палітычных Уцекачоў — новы этап дзейнасці

*Уступнае слова старшыні Зьвяза Яся Абадоўскага*

Ужо не адзін год жывуць у Польшы грамадзяне Беларусі, якія былі вымушаныя пакінуць сваю Радзіму ў выніку палітычнага пераследу з боку цяперашніх беларускіх улад. Кожны з іх спадзяецца, што развітанне з родным домам носіць часовы характар. І гэта насамрэч так. Але каб наблізіць час вяртання, каб зрабіць Беларусь дэмакратычнай нельга проста сядзець склаўшы рукі. Менавіта гэта і стала першапрычынай утварэння нашай арганізацыі.

Зьвяз беларускіх палітычных уцекачоў з'яўляецца аб'яднаннем беларускіх эмігрантаў, пакінуўшых Беларусь з-за ганенняў з боку рэжыма Лукашэнкі і быў утвораны ў лютым 2001 года. Праз паўгода арганізацыя, у адпаведнасці з польскімі законамі, была зарэгістраваная ў Гаспадарчым Судзе г. Беластока. Зараз Зьвяз аб'ядноўвае каля трыццаці чалавек. Асноўнымі мэтамі дзейнасці арганізацыі ёсць юрыдычная, інфармацыйная, псіхалагічная і іншыя віды дапамогі для асобаў, якія звярнуліся да уладаў Польшчы з просьбай палітычнага прытулку і для тых, хто атрымаў статус уцекача ў гэтай краіне. Таму важным накірункам нашай працы стала спрыянне ў адаптацыі ў суседняй дзяржаве беларускіх палітычных эмігрантаў.

Таксама мы спрабуем аблегчыць усталяванне кантактаў сяброў Зьвяза з польскімі і міжнароднымі структурамі, якія здольныя дапамагчы ў вырашэнні разнастайных праблем нашых суграмадзян, што знаходзяцца па левы бок Буга. Зразумела, у гэтым накірунку прыярытэтным з'яўляецца супрацоўніцтва з праваабарончымі арганізацыямі.

Дзейнасць Зьвяза ажыццяўляецца на дабраахвотных пачатках. На сённяшні дзень створаная інфармацыйная база па пытаннях атрымання статуса і сацыяльнай абароны уцекачоў, вывучаныя і прааналізаваныя заканадаўчыя акты Польшчы, Беларусі, а таксама міжнароднае права па дадзенай праблеме. Мы аказалі як інфармацыйную, так і юрыдычную дапамогу дзесяткам грамадзянаў РБ, якія звярнуліся да нас.

Актывісты Зьвяза наладзілі шчыльныя кантакты з усімі апазіцыйнымі палітычнымі партыямі, дэмакратычнымі грамадскімі і праваабарончымі арганізацыямі з мэтай абмена інфармацыяй і падцвярджэння, у выпадку неабходнасці, фактаў удзелу ў апазіцыйнай дзейнасці тых ці іншых нашых землякоў, што звярнуліся ў Зьвяз па дапамогу.

З самага пачатку дзейнасці усталяваліся добрыя сувязі з польскімі праваабарончымі арганізацыямі і адпаведнымі міжнароднымі структурамі — Польскім Хельсінкскім Фондам, Amnesty International, Прадстаўніцтвам Вышэйшага Камісара ААН па справах уцекачоў. У многім гэтаму спрыяла і спрыяе актыўная дзейнасць варшаўскага прадстаўніцтва нашай арганізацыі, якое ўзначальвае намеснік старшыні Зьвязу Валерый Кругавы.

Па меры неабходнасці Зьвяз дапамагае ў аб'ектыўным падыходзе пры разглядзе справы аб наданні статуса ўцекача Міністэрству унутраных спраў і адміністрацыі, Радзе па справах уцекачоў, дапамагае збіраць і прадастаўляць доказы палітычнай дзейнасці канкрэтных грамадзян. За невялікі час існавання арганізацыі нам удалося зрабіць не так ужо і мала. І гэта, перш за ўсё, — актыўны ўдзел у абароне беларускіх грамадзян, звязаных з дэмакратычнай апазіцыяй, якім пагражала экстрадыцыя ў РБ, на падставе сфальсіфікаваных лукашэнкаўскімі ўладамі крымінальных спраў. У 2001 годзе у Польшчы праходзіла шэсць экстрадыцыйных працэсаў, што тычыліся беларускіх грамадзян, якія пераследваліся на Радзіме па палітычных матывах і ніводзін з іх не быў выданы РБ. Зараз распрацаваная, так бы мовіць, лінія абароны беларускіх апазіцыянераў ад выдачы па палітычна матываваных крымінальных справах на Беларусь, прыцягнутая ўвага польскіх праваабарончых арганізацый, беларускіх грамадскіх аб'яднанняў, СМІ і грамадскасці абедзьвюх краін да гэтых працэсаў.

Ускосным вынікам дзейнасці Зьвяза стала надзвычай негатыўная ацэнка факта яго існавання лукашэнкаўскай адміністрацыяй. Так, напрыклад, прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Павел Латушка у адказ на паведамленне аб рэгістрацыі Зьвяза ў Польшчы заявіў, што МЗС расцэньвае гэты факт як несяброўскі акт з боку суседняй дзяржавы да Беларусі.

Але, зразумела, рэгістрацыя арганізацыі з'яўляецца прызнаннем Польшчы неадзіных прыкладаў палітычнага пераследу з боку антыдэмакратычнага, аўтарытарнага рэжы-

*(працяг на 7 стар.)*



ПАГОНЯ

# Не — пераследу іншадумства

Пераслед беларускіх журналістаў на іх Радзіме ўжо даўно перастаў быць навіной для сусветнай грамадскасці. Менавіта журналісты сёння з'яўляюцца тымі асобамі, якія імкнуцца паказаць і абгрунтавана даказаць усю мярзотнасць лукашэнкаўскіх парадкаў. І тое што гэта ім удаецца падцвярджае вельмі агрэсіўнае стаўленне да іх матэрыялаў з боку сённяшняга беларускага кіраўніцтва. Самым яскравым апошнім прыкладам стаў распачаты ў Гродне працэс супраць журналістаў ужо зачыненай незалежнай газеты „Пагоня". Але нашыя калегі не засталіся без дапамогі, хоць і маральнай, з боку Зьвяза і польскіх журналістаў.

Заява

Ад імя Зьвяза беларускіх палітычных уцекачоў у Польшчы выражаем пратэст супраць крымінальнага пераследу Мікалая Маркевіча і Паўла Мажэйкі — рэдактара і журналіста газеты „Пагоня" (г.Гродна)

Свабода слова, свабода думкі — ужо даўно сталі для беларускіх улад абстрактнымі паняццямі. Але каб у XXI стагоддзі, у цэнтры Еўропы пагражаць журналістам турмой толькі за тое, што яны пасмелі выказаць сваё меркаванне аб уладзе публічна — нават для такой „экзатычнай" краіны якой стала Беларусь за гады прэзідэнцтва А.Лукашэнкі — вышэй разумення нармальных людзей.

Заклікаем улады Беларусі сабраць рэшткі здаровага сэнсу. Не ганьбіце краіну перад цывілізаваным светам! Спыніце крымінальную справу супраць журналістаў за смеласць думаць свабодна, за выкананне свайго прафесійнага доўгу.

Прынята на паседжанні Галоўнай управы Зьвяза 9.04.2002г.

Сваю салідарнасць з беларускімі журналістамі праявілі іх польскія калегі. У дзень, калі над гродзенскімі вальнадумцамі мусіў распачацца судовы працэс, прадстаўнікі беластоцкіх мас-медыя выйшлі на мітынг пратэсту. Раніцой 9 красавіка каля беларускага консульства сабралося прыкладна 30 чалавек — супрацоўнікаў мясцовых СМІ, да якіх далучыліся неабыякавыя да правоў чалавека ў суседняй краіне жыхары Беластока і прадстаўнікі беларускай палітычнай эміграцыі. На мітынгу з прамовамі пратэсту супраць прыгнятання свабоды слова і ў падтрымку беларускіх калег выступілі некалькі беластоцкіх журналістаў. Падчас акцыі праходзіў збор подпісаў пад адмысловай заявай-пратэстам (яе тэкст мы падаем ніжэй), якую планавалася перадаць Генеральнаму Консулу. Але прынцыпы работы беларускіх чыноўнікаў з грамадскасцю вядомыя — спадар Консул якраз у той момант кудысьці з'ехаў і таму прыняць заяву не было каму. Па чутках, яго не было ў той дзень і ў Варшаве. Тым не меньш акцыя адбылася. І менавіта яна, а не гульня ў хованкі беларускага консулу цікава дэмакратычнай апазіцыі і, перш за ўсё, церпячым ад бяспраўя гродзенскім журналістам.

*Падрыхтаваў Ул. Лапцэвіч*

Беласток, 9.04.2002 г.

Генеральнаму Консулу
Рэспублікі Беларусь
у Беластоку

*Пратэст у абарону праследаваных беларускіх журналістаў*

Асяроддзе журналістаў у Беластоку пратэстуе супраць праследу журналістаў незалежнай прэсы ў Беларусі. Наяўным прыкладам падаўлення свабоды слова з'яўляецца судовы працэс супраць журналістаў гарадзенскага тыднёвіка „Пагоня": Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі, які распачынаецца сёння ў Гародні. Мы пратэстуем таксама супраць рэпрэсіяў, якія сустрэлі іншых беларускіх журналістаў, якія выказалі салідарнасць са сваімі калегамі.

Адносіны кіруючых Беларуссю да такіх асноўных грамадзянскіх правоў, як свабода слова, сведчыць пра тое, як далёка ўладам гэтай краіны да стандартаў дэмакратычнага свету. Многія гады беластоцкія журналісты падтрымліваюць сувязі з калегамі ў Беларусі. Ведаем, у якіх цяжкіх умовах яны працуюць. Таму мы з імі ў гэтыя цяжкія для іх дні.

Журналісты беластоцкіх СМІ

# Польшча ня выдасць Жукаўца беларускім уладам

У Беластоку адбылося ўжо трэцяе паседжанне апэляцыйнага суду ў справе скаргі беларускага бізнэсоўца Андрэя Жукаўца на рашэнне Беластоцкага акруговага суду, які ўжо трэці раз пастанавіў, што экстрадыцыя Жукаўца ў Беларусь дапушчальная. Гэтым разам суд прыняў канчатковае рашэнне — выдача Андрэя Жукаўца немагчымая.

Акрамя іншага, увагу сродкаў масавай інфармацыі і прадстаўнікоў грамадзкасці да сённяшняга судовага паседжання прыцягнулі дзве акалічнасці. Першае: Беластоцкі акруговы суд, нягледзячы на заўвагі і скасаванне яго рашэнняў судом апэляцыйным, упарта працягваў даводзіць, што выдача Жукаўца магчымая. Пакуль невядома, ці ёсць трохразовае ігнараванне акруговым судом заўвагаў суду апэляцыйнага нейкім рэкордам, але экспэрты кажуць, што гэта пэўна кідае цень на ўсю судовую сыстэму. Другое: падчас апошняга паседжання Беластоцкага акруговага суду пракурор Уладзімер Раманчук і старшыня суду Ян Федарук да вялікага здзіўлення прысутных пачалі хваліць беларускую судовую сыстэму і дзяржаўны лад.

„Бракуе падставаў сцвярджаць, што Андрэй Жукавец будзе ў Беларусі пазбаўлены права на справядлівы суд. Як вынікае з матэрыялаў сродкаў масавай інфармацыі, сытуацыя ў Беларусі паволі стабілізуецца", — заявіў тады, аргументуючы рашэнне суду, Ян Федарук.

На гэты раз Беластоцкі апэляцыйны суд разгледзеў скаргу Андрэя Жукаўца і пастанавіў, што выдача грамадзяніна Беларусі Жукаўца не адпавядае польскаму заканадаўству і таму недапушчальная. Гэтым разам рашэнне апэляцыйнага суду было канчатковым.

Апошняе судовае паседжанне дадало справе яшчэ адну акалічнасць, якая робіць увесь працэс у справе экстрадыцыі Андрэя Жукаўца ў пэўным сэнсе ўнікальным.На абарону абвінавачанага паўстаў сам пракурор.

Распавядае Андрэй Жукавец: „Пракурор выступіў з хадайніцтвам, каб апэляцыйны суд адмяніў папярэдняе рашэнне акруговага суду і не вяртаў справу на перагляд, а канчаткова пастанавіў не вяртаць мяне ў Беларусь. Выходзіць, пракурор выступіў як абаронца. Нават ня ведаю, як гэта можна патлумачыць. Я быў вельмі ўражаны, бо думаў, што пракурор будзе падтрымліваць беларускі бок, а ён зрабіў наадварот".

Паводле польскага заканадаўства, абскардзіць рашэнне апэляцыйнага суду можа толькі пракуратура, аднак пасля такога выступу пракурора гэта наўрад ці здарыцца.

Такім чынам, можна сказаць, што сёння ў Беластоку ўрэшце закончыўся апошні з вядомых працэсаў у справе заяваў Беларускай пракуратуры на экстрадыцыю беларускіх бізнэсоўцаў.

*Аляксей Дзікавіцкі, Радыё „Свабода"*



***Каментар рэдакцыі***

„Дзіўныя паводзіны" акружнога пракурора ў справе па экстрадыцыі Андрэя Жукаўца становіцца зразумелым, калі праглядзець артыкулы ў польскай прэсе са справаздачай аб трэцім пасяджэні Беластоцкага суда па яго справе. На гэтым пасяджэнні выступаў як сведка з боку абароны намеснік старшыні Зьвяза Валерый Кругавы. І пракурор, і суддзі былі настроеныя прадставіць Жукаўца як звычайнага эканамічнага злачынцу, а Беларусь як звычайную краіну з нармальным правасуддзем. Таму аргументаванае, напоўненае фактамі абвяргаючымі іх пазіцыю выступленне сведкі стала нечаканым сурпрызам. Спрабуючы паставіць пад сумнеў яго выступленне пракурор настолькі „захапіўся", што заявіў „у Беларусі суддзі знаходзяцца нават у лепшым становішчы, чым у Польшчы. Прэзідэнт не аказавае на уціску, ён нават кватэры ім дае. А вось у Польшчы як раз наадварот". Суддзі, выслухаўшы ад В. Кругавога факты пераследу прадпрымальнікаў на Беларусі за супрацоўніцтва з апазіцыйнымі партыямі, не знайшлі нічога лепшага як заявіць у сваім рашэнні, што на іх думку - „у Беларусі апошнім часам становішча з выкананнем правоў чалавека паляпшаецца". Выступ Кругавога і адказныя „адкрыцці" пракурора і суддзяў выклікалі ў польскіх медыях сапраўдны скандал - журналісты вядучых газет „Рэч Паспалітая", „Выборча", Польскага радыё задавалі пытанне - ці змянілася пазіцыя польскай дзяржавы ў адносінах да сітуацыі ў Беларусі альбо дзяржаўныя чыноўнікі дазваляюць сабе выказванні і прыняццё рашэнняў насуперак гэтай пазіцыі? Натуральна, варшаўскія начальнікі беластоцкага пракурора не маглі не заўважыць такіх выступаў. Дзякуй Богу, пракурор да пасяджжэння апеляцыйнага суду зразумеў свае памылкі.

Трэба адзначыць, што ўдзел Звяза ў справе Жукаўца і не толькі яго не абмежаваліся выступамі на пасяджэннях суда на баку абароны. У Беластоку гэта былі і пікеты ля суда і звароты да міністра юстыцыі з просьбай аб нявыдачы беларусаў, якія пераследуюцца сённяшнімі ўладамі ў сябе на радзіме за іх палітычныя погляды. Менавіта пасля сустрэчы з прадстаўнікамі Зьвяза ўлетку 2001 года міністр юстыцыі Лех Качыньскі, вядомы сваёй бескампраміснай барацьбой са злачыннасцю, зрабіў афіцыйную заяву, што ён ні пад якім выглядам не выдасць на Беларусь людзей, якія пераследуюцца за іх погляды і грамадскую пазіцыю.

А такіх патрабаванняў і судовых працэсаў па іх было ў апошнія гады досыць многа. Польскія суды паслядоўна адмаўлялі ў выдачы беларускай пракуратуры прадпрымальнікаў Л.Волка, дэпутата Вярхоўнага Савета В.Кругавога, Былога старшыні праўлення банка „Дукат" В. Маркевіча, намесніка дырэктара МАЗа А.Якаўлева і вось зараз прадпрымальніка А. Жукаўца.

Беларуская прэса як незалежная, так і дзяржаўная многа пісала аб гэтых працэсах. Пры ўсёй павазе да журналістаў, якія апісвалі гэтыя падзеі, з адной іх высновай мы пагадзіцца не можам. А менавіта, быццам польскія суды прымаюць рашэнні аб адмове ў выдачы нашых суайчыннікаў у напаўаўтаматычным рэжыме, кіруючыся справаздачамі міжнародным праваабарончых арганізацый аб парушэннях правоў чалавека на Беларусі і адсутнасці гарантый незалежнага працэса. Польскі суд - гэта сапраўды незалежны суд у дэмакратычнай краіне і ён не штампуе рашэнняў, а кожную справу ўважліва разглядае з усіх бакоў. Не мала было выпадкаў, калі тыя ж польскія суды не вагаючыся выдавалі беларусаў і іх рашэнні набывалі сілу. Кожны раз суду трэба даказаць і даказаць фактамі, што менавіта канкрэтны чалавек здзяйсняў інкрымінуемае яму злачынства, а не пераследуецца за сваю палітычную дзейнасць.

Трэба адзначыць, што Зьвяз беларускі палітычных уцекачоў не прыймае ўдзелу ў экстрадыцыйным працэсе і выступае ў падтрымку таго ці іншага чалавека, пакуль сам не ўпэўнецца, што размова ідзе аб пераследу па палітычных матывах. Для гэтага мы выкарыстоўваем нашыя кантакты з вядучымі апазіцыйнымі партыямі, інфармацыю з іншых крыніц і калі атрымліваем адпаведныя падцверджанні, то прадастаўляем іх у суд. Менавіта таму меркаванне Зьвяза заўсёды прыймаецца судамі з належнай увагай.

# Беларускі свет




**Пабачыў свет другі пасля аднаўлення выдання ў гэтым годзе нумар газеты „Беларус”**, якая заснаваная Беларуска-амерыканскім задзіночаннем. Значная ўвага нададзеная інфармацыі аб святкаванні сёлетняга Дня Волі, угодкам Чарнобыльскай трагедыі, жыцці беларусаў у Амерыцы.

**19 красавіка ўвечары ў Мінску прайшоў Марш пратэсту „Так жыць нельга!”** Арганізатары мяркавалі засяродзіць увагу грамадскасці на бессэнсоўнасці далейшага кіравання Беларуссю цяперашнім прэзідэнтам, які парушае законы і, нават, уласныя абяцанні. Ну а на колькі ім гэта ўдалося можна ацаніць па рэакцыі ўлады. Як сведчаць удзельнікі мерапрыемства, больш жорсткага разгону дэманстрантаў у Мінску не было ніколі. Нават падчас Дня Волі-2000. АМАПаўцы збівалі асабліва моцна падлеткаў, цягнулі людзей па асфальце, з-за чаго ад трэння многія атрылівалі апёкі. Лукашэнкаўскія найміты білі нават цяжарную жанчыну. Арыштавана больш за 100 чалавек. Міжнародная Ліга Правоў Чалавека выказала рашучы пратэст супраць насілля ў адносінах да мірных дэманстрантаў.

**Святкавання Дня Волі** ў гэтым годзе не абыйшлося без затрымання. Так, у Мінску людзі сабраліся ў Купалаўскім скверы, каб ускласці кветкі да помніку Янку Купала, праспяваць гімн „Магутны Божа”, паслухаць песні ў выкананні бардаў і рок-групаў, а потым прайсці да помніка Якубу Коласу, дзе таксама ўскласці кветкі. Але святкааўшыя змаглі дайсці толькі да плошчы Перамогі, на якой пачаўся „хапун” і расправа над мірнымі людзьмі. На самой плошчы Якуба Колася была затрыманая група жанчын, што павінны былі сустрэць святочную калону выкананнем народных песень. Усяго арыштаваных у Мінску 24 сакавіка — каля 60 чалавек. Ускладанне кветак у гэты дзень было прадметам пераследу лукашэнкаўскай ахоўкі і ў Гродна, дзе затрымалі 22 чалавекі.

**18 парламентарыяў літоўскага Сейму** утварылі дэпутацкую групу па справах сувязяў з Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання. У гэтую групу ўвайшлі прадстаўнікі усіх фракцый парламенту. Па словах адной з ініцыятарак стварэння дэпутутскага аб'яднання Расы Юкнавічэне, сваю ролю ў з'яўленні групы адыграла цяперашняе старшынства Літвы ў Радзе Еўропы.



**Працягваецца барацьба за Курапаты**, якая перайшла ў новую фазу. Міліцыя пачала арыштоўваць абаронцаў гэтага ўрочышча смутку. Зноў пры дапамозе будаўнічай тэхнікі улады спрабуюць разагнаць нязгодных. Уноч на 18 красавіка невядомыя падпалілі палатку, дзе знаходзіліся валанцёры.

**26 красавіка ў Мінску пройдзе стаўшы ўжо традыцыйным „Чарнобыльскі шлях”**. Як падкрэсліваецца у звароце арганізацыйнага камітэту, прэзідэнт і яго ўрад ня кажуць і не даюць сказаць усёй праўды пра чарнобыльскія наступствы. Год за годам скарачаюць аб'ёмы фінансавых сродкаў на выкананне Дзяржаўнай праграмы па пераадоленні катастрофы і сацыяльную абарону пацярпелых.

*Аб Чарнобыльскай трагедыі напісана ўжо даволі многа не толькі газетных і часопісных артыкулаў, абаронена на гэтую тэму не адна дысертацыя. Але дагэтуль не спыняюцца спрэчкі — ці была гэта вялікая тэхнагенная катастрофа з жудаснымі наступствамі альбо проста прыкрая тэхналагічная аварыя, вынікі ад якой не такія ўжо і страшныя, як падаюць так званыя „дзермакраты". Мы не навукоўцы і бярэм на сябе права раставіць над гэтай праблемай усе кропкі над „і", але лічым неабходным падаць чытачам пункт погляду на падзеі 16-гадовай даўніны з Беластоку. З гэтай нагоды адбылася мая размова з галоўным рэдактарам тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва" спадаром Віталем Лубай.*



# Выбух на Чарнобыльскай АЭС — прайшло 16 гадоў

— Спадар Віталь, якім чынам даведаліся ў Польшчы і, у прыватнасці, на Беласточчыне аб Чарнобыльскай трагедыі?

— Аб гэтым грамадскасці распавялі польскія сродкі масавай інфармацыі, абапіраючыся на заходнія інфармацыйныя крыніцы. Літаральна праз пару дзён распачалася акцыя арганізаваная службамі аховы здароўя па выдачы дзецям ёду. Да бацькоў з заклікам звярталіся медыцынскія службы.

— Якія пачуцці панавалі тады ў людзей у адносінах да трагедыі?

— Людзі былі перапалоханыя, бо, як сцвярджалася, частка радыёактыўных рэчываў упала і на нас. Была нейкая паніка — баяліся хадзіць у лес па грыбы, ягады. Зразумела, ведаючы аб тым, што большая частка радыёнуклідаў трапіла на Беларусь, людзі выказвалі спачуванне.

— У першыя гады пасля выбуху мноства беларускіх дзяцей з пацярпелых раёнаў адпачывалі і аздараўляліся на Беласточчыне. Наколькі шчырай была дапамога з боку простых мясцовых жыхароў, якія прымалі гэтых дзяцей?

— Дапамога сапраўды была шчырай. Калі грамадскасць даведалася аб хваробах гэтых дзяцей і людзі зразумелі ўсю небяспеку для іх здароўя, то пачалі ствараццa гуманітарныя грамадскія камітэты. Гэтая стварэнне адбывалася, так бы мовіць, знізу і садзейнічалі іх стварэнню грамадскія і рэлігійныя аб'яднанні. Камітэт, заснаваны па ініцыятыве беларусаў у Беластоку, дзейнічаў 2 гады. Некалькі разоў па яго лініі тут прымалі дзяцей з пацярпелых раёнаў Беларусі. Дарэчы, гэтыя дзеці праходзілі тут і медыцынскае абследаванне.

— Чаму сталася так, што памеры гэтай дапамогі цяпер значна зменшыліся, а ў многім і ўвогуле зніклі?

— Прычына такога змяншэння, у большасці, фінансавае аслабленне вышэйзгаданых камітэтаў. Звыкліся і людзі. Дзе-нідзе пачаліся нараканні на беларускі бок. Бо там паўстала мноства арганізацый, якія дзейнічалі перашкаджаючы адзін аднаму і нават канкуруючы паміж сабой. Здаралася, што дзяцей з Беларусі прывозілі без узгаднення з польскім бокам. Ну а зараз час ідзе і людзі проста забываюцца пра Чарнобыльскую трагедыю. А, напрыклад, нядаўна ў штотыднёвіку „Палітыка" з'явіўся артыкул, дзе аўтар даказвае, што аварыя на ЧАЭС не была такой страшнай і, нават, перасяленне не было патрэбнае. Шчыра кажучы, людзі тут на Беласточчыне ўжо не жывуць Чарнобылем, для іх гэта ўжо гісторыя.

*Гутарыў Ул. Лапцэвіч*

# Юрыдычная

**Адной з мэтаў „Эмігранта" з'яўляецца прававая асвета грамадзян Беларусі, якія выехалі, альбо плануюць выехаць з Радзімы па палітычных прычынах і, як следства, прасіць палітычнага прытулку, прынамсі, у Польшчы. Вопыт сведчыць, што неведаючы элементарных правілаў паводзін, а таксама ўласных правоў і абавязкаў на чужыне, наш чалавек трапляе ў розныя даволі непрыемныя сітуацыі, якія можна было б лёгка пазбегнуць. З першага ж нумары выдання мы распачынаем друкаванне каментаваных прававых актаў, веданне якіх, як мы мяркуем, дапаможа нашым суайчыннікам выбраць правільную лінію паводзін.**

## Што такое статус уцекача?

Статус уцекача — гэта прававы інстытут, створаны з мэтай прадастаўлення абароны і дапамогі людзям, якім пагражае пераслед у іхніх краінах. Чалавек, які прызнаны ўцекачом, мае права на часовае знаходжанне ў Польшчы, на працу, на сацыяльную дапамогу, асвету. Ён можа хадайнічаць аб выкліку ў Польшчу сваёй сям'і і ўдзельнічаць у інтэграцыйнай праграме для ўцекачоў. Ён атрымлівае таксама праязны дакумент, які замяняе пашпарт, так званы „жэнеўскі праязны дакумент".

Вызначэнне статусу ўцекача і яго правы ў якасці ўцекача рэгулюе Жэнеўская канвенцыя ад 1951 года.

## Хто можа атрымаць статус уцекача?

Статус уцекача можна атрымаць, калі Вы пакінулі сваю краіну, бо баяліся пераследу па прычыне расы, веравызнання, нацыянальнасці, палітычных перакананняў альбо прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы.

Пераследам лічацца толькі сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека — не заўсёды дрэнныя адносіны з боку улад з'яўляецца пераследам.

Вы не можаце атрымаць статус уцекача, калі пакінулі Радзіму толькі з-за эканамічных цяжкасцяў, па асабістых матывах і т.п.

Не можа атрымаць статус уцекача асоба, якая падазраецца ў здзяйсненні злачынства супраць міру, ваеннае злачынства, злачынства супраць чалавецтва альбо цяжкае злачынства непалітычнага характару перад прыездам у Польшчу.

## Права на інфармацыю

Калі Вы хочаце атрымаць статус уцекача, кампетэнтныя органы улады абавязаныя інфармаваць Вас аб падрабязнасцях працэдуры, а таксама аб Вашых правах і абавязках. Таму калі Вам нешта незразумела, Вы можаце смела папрасіць чыноўніка, які займаецца Вашай справай, каб ён даў тлумачэнне.

## Заява аб прызнанні статусу ўцекача

Калі Вы знаходзіцеся ў Польшчы, заяву аб прызнанні статусу ўцекача Вы павінны асабіста прадставіць у Галоўнага камендантa памежных службаў на вуліцы Кашыковай 16, 00-562 Варшава.

Калі Вы знаходзіцеся на мяжы і Вы не маеце права на ўезд у Польшчу — заяву трэба прадставіць каменданту памежных службаў на памежным пераходзе. Падача заявы аб прадастаўленні статусу ўцекача не вызваляе заявіцеля ад крымінальнай адказнасці за нелегальнае перасячэнне мяжы. Нельга прадставіць заяву праз упаўнаважанага. Заяву трэба адрасаваць Прэзідэнту Управы па справах рэпатрыяцыі і іншаземцаў, вул. Кашыкова 16, 00-562 Варшава. Супрацоўнікі Дэпартамента працэдур па прызнанню статаса ўцекача будуць весці Вашу справу.

У заяве трэба ўказаць:

— Ваша імя, прозвішча, узрост;

— краіну Вашага паходжання;

— інфармацыю, чаму Вы хочаце атрымаць статус уцекача (чаму Вы падвяргаліся пераследу, хто Вас праследаваў, якія канкрэтныя праследаванні закранулі Вас альбо Вашу сям'ю). Заява ахоплівае Вашых непаўналетніх дзяцей і Вашу жонку (мужа) — з яе (яго) згоды.

Калі ў заяве няма усіх інфармацый альбо Вы адмовіліся падвергнуцца дзеянням па ідэнтыфікацыі і медыцынскаму агляду, Прэзідэнт Управы пакідае Вашу заяву без разгляду. Заяву аб прызнанні статусу уцекача, які Вам дадуць служачыя памежных службаў, Вы можаце запоўніць на сваёй роднай мове ці на іншай мове, якую Вы разумееце.

## Пастанова аб узбуджэнні працэдуры

Калі Ваша заява правільна запоўнена, будзе выдадзена пастанова аб узбуджэнні працэдуры.Адмова ва ўзбуджэнні працэдуры магчымая ў выпадках калі:

— Вы прыехалі з бяспечнай трэцяй краіны, куды маеце права вярнуцца;

— Вы ўжо звярталіся ў Польшчы з заявай аб прызнанні статусу ўцекача і не паведамляеце ніякіх новых важных абставінаў.

Пасля ўзбуджэння працэдуры Вы атрымліваеце часовае пасведчанне асобы іншаземца, якое замяняе Вам пашпарт перад польскімі органамі ўлады. Свой пашпарт Вы павінны здаць на захаванне ва Ўправу па справах рэпатрыяцыі і іншаземцаў на той час, пакуль будзе цягнуцца працэдура. Гэта не азначае, што Вы робіце крокі, каб адмовіцца ад свайго грамадзянства.

## Дапамога дзяржавы падчас працэдуры па прызнанню статусу ўцекача

Пасля ўзбуджэння працэдуры Вы маеце права на раскватэраванне, харчаванне, медыцынскую апёку, рэча-

вую і грашовую дапамогу. Вашы дзеці могуць наведваць школу. Дапамогу Вы пачынаеце атрымліваць з моманту размяшчэння ў адным з цэнтраў для ўцекачоў. Вы маеце права хадайнічаць аб прадастаўленні дапамогі па-за цэнтрам для ўцекачоў, калі гэта абгрунтавана станам Вашага здароўя альбо Вы баіцеся за сваю бяспеку ў цэнтры для ўцекачоў.

Дапамогу Вы атрымліваеце на працягу таго часу, пакуль цягнецца працэдура па прызнанню статуса ўцекача, у абгрунтаваных выпадках можна папрасіць аб прадастаўленні дапамогі тэрмінам да трох месяцаў ад даты атрымання статусу ўцекача.

### Інтэрв'ю

Прэзідэнт Управы па справах рэпатрыяцыі і іншаземцаў разглядае Вашую справу ў першай інстанцыі. Вы будзеце запрошаны на інтэрв'ю па пытанню статуса — гэта субяседаванне з супрацоўнікам Дэпартамента працэдур па прызнанню статуса ўцекача і права прытулку, якое будзе праведзена на Вашай роднай мове альбо на іншай мове, якой Вы добра валодаеце.

У ходзе субяседавання супрацоўнік Дэпартамента задасць Вам, напэўна, наступныя пытанні:

— чым Вы займаліся ў сябе на Радзіме,

— чаму Вы выехалі са сваёй краіны,

— ці падвяргаліся Вы перасследу, калі так — то чаму?

— ці працягваеце Вы баяцца перасследу і па якой прычыне,

— Ваша нацыянальнасць, веравызнанне, палітычныя погляды.

Акрамя гэтага інтэрв'ю Вы можаце далучыць да сваёй справы іншыя доказы, напрыклад, дакументы і сваю пісьмовую заяву. Вы маеце доступ да матэрыялаў справы. Вы можаце патрабаваць дапаўнення сабранага доказнага матэрыялу па Вашай справе.

У працэдуры Вас можа прадстаўляць Ваш упаўнаважаны. Упаўнаважаным можа быць любы паўналетні чалавек. Упаўнаважаны можа ўдзельнічаць у Вашым інтэрв'ю па пытанню статусу, звяртацца з пісьмамі, мае таксама доступ да матэрыялаў справы. Аднак прысутнасць упаўнаважанага не з'яўляецца абавязковай.

Пратакол з Вашымі паказаннямі з'яўляецца вельмі важным дакументам. Вы маеце права патрабаваць унесці выпраўленні ці дапаўненні, калі лічыце, што Вашы паказанні запісаныя неверна. Вы можаце адмовіцца падпісваць пратакол, калі Вы не згодныя з яго зместам. Выкарыстоўваеце свой час і добра падрыхтуйцеся да субяседавання з супрацоўнікам Дэпартамента, які будзе працаваць над рашэннем па Вашай справе.

### Небгрунтаваная заява

Калі Прэзідэнт Управы прыйдзе да высновы, што:

— змест Вашай заявы даказвае, што Вы не маеце падстаў прасіць статус уцекача,

— дадзеныя ў заяве з'яўляюцца непраўдзівымі і ілжывымі,

— Вы паходзіце з бяспечнай краіны,

— Вы падалі заяву толькі для таго, каб пазбегнуць выдварэння, тады ён выносіць адмоўнае рашэнне з нагоды неабгрунтаванай заявы. Гэтае рашэнне Вы можаце абскардзіць у Раду па справах уцекачоў на працягу трох дзён з моманту яго атрымання. Рада павінна прыняць рашэнне на працягу пяці дзён. Скаргу па гэтаму рашэнню Вы можаце падаць у Галоўны адміністрацыйны суд на працягу 30 дзён.

### Тэрміны

Рашэнне аб прадастаўленні альбо адмове у прадастаўленні статуса ўцекача павінна быць вынесена не пазней, чым за 6 месяцаў са дня ўзбуджэння працэдуры.

У выпадку, калі ў ходзе працэдуры патрабуецца дапаўненне доказнага матэрыялу, дадзены тэрмін можа быць працягнуты, таму заявіцель павінны імкнуцца да хутчэйшага прадастаўлення ўсіх патрабуемых доказаў, што дапаможа вырашыць пытанне без непатрэбнага запавольвання.

*(працяг будзе)*

## Зьвяз Беларускіх Палітычных Уцекачоў...

му Лукашэнкі да грамадзян Беларусі, якія не пабаяліся выказаць пратэст супраць сучаснай сітуацыі ў краіне і паспрабавалі яе палепшыць, дзейнічаючы ў рамках нават сённяшняй беларускай Канстытуцыі. Таму дарэмныя спробы выдаць дзейнасць Зьвяза як нешта шкоднае Беларусі. Стварэнне нашай арганізацыі было б увогуле бессэнсоўна, калі б на Радзіме мы маглі свабодна і беспярашкодна выказваць свае думкі, адстойваць уласныя палітычныя меркаванні, працаваць на карысць беларускага народа не баючыся перасследу за вальнадумства. Але мы ведаем, што рана ці позна пройдзе час лукашэнкаўскага цемрашальства і Беларусь стане дэмакратычнай краінай. На жаль, сёння такога няма і таму Зьвяз беларускіх палітычных уцекачоў — гэта патрабаванне часу.

*Рэдкалегія „Эмігранта" ўдзячная рэдакцыі тыднёвіка „Ніва" за тэхнічную дапамогу пры падрыхтоўцы выдання.*



**ЭМІГРАНТ**

Месячнік беларускай палітычнай эміграцыі ў Польшчы

Нумар 1, красавік 2002 г.

Выданне Зьвяза Беларускіх Палітычных Уцекачоў ў Польшчы.
Выходзіць з 2002 года.
Галоўны рэдактар: Ясь Абадоўскі.
Рэдкалегія: Уладзімір Лапцэвіч, Эльвіра Старавойтава.
Адрас да карэспандэнцыі:
15-424 Białystok, ul.Lipowa 25/3,
з допісам „Эмігрант"
Наклад: 299 асобнікаў.
Рэдакцыя можа не падзеляць погляд аўтараў.
Тэлефоны для кантактаў:
+48 607 494 857, +48 22 339 06 57
E-mail: zwiaz@poczta.onet.pl

# Знешняя палітыка Беларусі — погляд студэнтаў і навукоўцаў

Напачатку красавіка ў Варшаўскім універсітэце прайшоў адкрыты навуковы семінар, які тычыўся беларуска-польска-французскіх сувязяў. Сярод разнастайных праблем, што былі разгледжаны на працягу двух дзён і закранаалі палітыку, сацыялогію і антрапалогію, асаблівую цікавасць выклікалі даклады аб сучасных міжнародных адносінах Беларусі і магчымым развіцці іх на бліжэйшую перспектыву.

Размова ішла на трох мовах — англійскай, французскай і польскай. Па меркаванню Аляксандра Лахівінеца, прадстаўніка Еўрапейскага гуманітарнага Універсітэта з Мінску, Беларусь сёння не вельмі важная краіна ў палітыцы Еўропы. Яна мае незразумелае ўяўленне аб сваім мейсцы на планеце. Зараз няма свабаднага развіцця беларускай правячай эліты і таму яна не разумее саму сябе.

Што тычыцца праблемы Ўсхода і Захада, то яна старая і традыцыйная для Беларусі. Зразумела, сённяшняе кіраўніцтва краіны арыентуецца на Расію. Аднак большасць інтэграцыйных праектаў нерэальныя. У той жа час інтэграцыя дазваляе здабываць у Расіі танныя крэдыты для беларускай улады і таму эканамічная інтэграцыя не вытрымлівае ніякай крытыкі. Беларускія прадпрыемствы стараюцца рабіць неякасную прадукцыю з таннай расійскай сыравіны. Таму і адразу паўстае пынанне са збытам гэтай самай неканкурэнтназдольнай прадукцыі.

Сёння інтэграцыя магчымая толькі ў ваеннай сферы, асабліва, калі ўлічваць жаданне многіх у Расіі вярнуцца да часоў „халоднай вайны".

На жаль, у Еўропе Беларусь па большасці не ўсведамляецца як незалежная дзяржава. Дамаўляцца з Лукашэнкай немагчыма, а супрацоўніцтва Расіі і ЕС у напрамку дэмакратызацыі Беларусі малаверагоднае. Сітуацыя ж з правамі чалавека тут для Расіі малацікавая.

Прэзідэнт Саюза франкамоўных студэнтаў таго ж універсітэта Кірыл Шафарэнка, закрануў у сваім дакладзе ўплыў дзейнасці місіі АБСЕ на беларускую выбарчую сістэму. Было падкрэслена, што цяперашнее мейсца і роля дадзенай місіі падаецца няяснай. Як сведчыць вопыт, выбарчая традыцыя ў Беларусі адсутнічае, што і вылілася ў азначаны аўтарам выбарчы крызіс падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў.

Дарадца Пасольства Францыі на Беларусі Сільвія Лемансон, распавяла прысутным аб крызісах, якія мелі месца ва ўзаемаадносінах беларускай улады з Еўрасаюзам на працягу апошніх пяці гадоў. Дакладчыца лічыць, што пасля 11 верасня свет значна змяніўся і таму Беларусь будзе вымушаная змяніць свае прыярытэты. Прадстаўніца французкага пасольства мяркуе, што сучасная дзейнасць місіі АБСЕ мусіць быць скіраваная больш на гуманітарную дзейнасць.

Карэспандэнт газеты „Наша Свабода" Людміла Гулякевіч у каментарыі да прамовы спадарыні Лемансон, адзначыла, што не трэба бачыць у беспарадачных і хаатычных рухах А.Лукашэнкі нейкія праявы яго добрай волі да супрацоўніцтва з цывілізаваным светам. Бо тады легка прыйсці да прызнання ягонага рэжыма. Прамоўца ўзгадала, што адзінае вынес Лукашэнка з паездкі ва Францыю многа гадоў таму — тое што ў гэтай краіне прэзідэнцкі тэрмін 7 гадоў.

Абмяркоўваючы даклады і праблемы узаемаадносін Беларусі і света, прысутныя ў многім пагадзіліся з думкай прафесара Антона Камінскага, што інтэграцыя Беларусі і Расіі — гэта інтэграцыя льва і труса.

*Ул. Лапцэвіч*

## *Першы гром*

*Голасам моцы, ціха і важна*
*Гром пракаціўся ўгары.*
*Луг адазваўся грому працяжна,*
*Лес адгукнуўся стары.*

*Гай страсянуўся, дрогнула поле,*
*Долы той гук паняслі.*
*У гэтым раскаце чуецца воля.*
*Чуецца радасць зямлі.*

*У грукаце гэтым многа ёсць сілы,*
*Чуецца моц і прастор...*

*Першыя громы! Сэрцу вы мілы,*
*Люб мне ваш смех паміж гор.*

*Міл майму сэрцу гоман далёкі,*
*Водгук вясёлы і шум.*
*Гром ты магутны, гром адзінокі!*
*Колькі ўскатурхаў ты дум!*

*Моцна мяне ты клічаш на волю —*
*Цяжка без волі мне тут.*
*Кланяйся, громе, роднаму полю,*
*Родны вітай ты мой кут!*

Якуб Колас, 1910 г.

## Усьміхнемся

